№ 3 (94) 2012

# абажур

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS




Старшыня журы творчага конкурсу «Вольнае слова» Юрась Карманаў і адна з пераможцаў Настасся Зелянкова

**ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!**

# Шаснаццаць беларускіх журналістаў

## сталі пераможцамі ў намінацыях конкурсу «Вольнае слова», зарганізаванага БАЖ

Цырымонія ўганаравання пераможцаў творчага конкурсу адбылася ў Сусветны дзень свабоды прэсы.

«У конкурсе бралі ўдзел амаль паўсотні журналістаў, што падрыхтавалі больш за сотню тэкстаў, чытаючы якія, я нават аблысеў», — жартаўліва паведаміў старшыня вызначанага ГА «БАЖ» журы Юрась Карманаў.

Уладальнік першага месца ў намінацыі «Найлепшы інфармацыйны матэрыял» Сямён Печанко («Наша Ніва») сціпла прызнаўся: «Дагэтуль я не перамагаў у інфармацыйных жанрах — толькі ў мастацка-публіцыстычных».

Зміцер Лукашук («Еўрарадыё») заняў другое месца ў намінацыі «Найлепшы інфармацыйны матэрыял».

Конкурсныя артыкулы Кліма Халецкага (34mag.net) старшыня журы назваў «фантастычнымі». А прызёр «Вольнага слова» прызнаўся, што першы год працуе ў журналістыцы і яму прыемна, што «яго тэксты падабаюцца не толькі бацькам».

Святлана Калінкіна («Народная Воля») — уладальніца першага месца за найлепшы аналітычны матэрыял. «Ніколі не бачыла сябе ў аналітычнай журналістыцы — лічыла сябе “інфармацыйшчыкам”. Але падзеі паспрыялі таму, што большасць матэрыялаў за мінулы год былі якраз аналітычнага плану», — зазначыла пераможца.

«Некалькі гадоў таму дзякаваў “Вольнаму слову” за “аванс” — маўляў, не падкачаю. Вось і не падкачаў», — заўважыў Зміцер Панкавец («Наша Ніва»), які заняў трэцяе месца ў «аналітычнай» намінацыі. На другім месцы, паводле рашэння журы, — Алесь Герасіменка (Generation.by).

Пераможца ў «мастацка-публіцыстычнай» намінацыі Настасся Зелянкова («Салідарнасць») зрабіла рэмарку, нібы ў працяг свайго выбітнага конкурснага матэрыялу: «Гэтая прэмія для мяне вельмі прыемная і вельмі патрэбная. Мне важна нешта ўяўляць з сябе як маці і жонка, але важна і быць асобай у сваёй прафесіі...»

«Абажур» віншуе калегаў і абяцае аддаць свае старонкі пераможцам «Вольнага слова»!



абажур

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 3 (94) 2012 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота***
Photo.bymedia.net

***На вокладках –***
фота Сяргея Балая

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 10.05.2012 г.
Дата выхаду 18.05.2012 г.
Фармат 60x84 / 8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 600 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня СТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com




Жанна Літвіна дала інтэрв’ю адмыслова для «Абажура». З кіраўніком БАЖ гутарыў Юрась Карманаў.

# Жанна Літвіна:

## *«Ёсць выданне — значыць, ёсць рэдакцыйны калектыў, ёсць журналістыка»*

***— Вацлаў Гавел, аналізуючы ролю незалежных СМІ ва Усходняй Еўропе, назваў вагу слова «мацнейшай за дзесяць вайсковых дывізій». Вы мяркуеце, што гэтае параўнанне актуальнае для сённяшняй Беларусі?***

— Вольнае слова з’яўляецца аднолькава важнай каштоўнасцю і для ўлады, і для журналіста, і для ўсяго грамадства.

Як толькі ўлада пачынае губляць моц, хістацца, слабнуць, адразу большым становіцца ціск на СМІ, узмацняецца кантроль за абарачэннем інфармацыі ў грамадстве.

Адсутнасць традыцыі свабоды слова і патрыярхальныя, савецкія падыходы дыктуюць афіцыйным уладам разуменне ролі СМІ ў грамадстве. Вынікам такога стаўлення з’яўляецца тое, што ў самім грамадстве свабода слова, свабода выказвання, права на атрыманне інфармацыі не ўспрымаюцца як вельмі важныя каштоўнасці.

Аднак сітуацыя кардынальна мяняецца. Для мяне Рубікон — 19 снежня 2010-га. Гэта мяжа, пасля якой жыццё змянілася. Так, з аднаго боку, рэпрэсіі, а з другога — абуджэнне грамадства ў часе прэзідэнцкіх выбараў.

2011 год быў адным з самых складаных і цяжкіх, бо палітычныя працэсы ўпершыню накладися на эканамічны крызіс. Пачаў руйнавацца кантракт дзяржавы з грамадствам, эканамічныя працэсы сталі некіравальнымі, і ўладзе стала яшчэ цяжэй уздзейнічаць на настроі ў грамадстве. І таму ў эпіцэнтры ціску апынуліся сродкі масавай інфармацыі.

Улада пачала губляць магчымасць адэкватна рэагаваць на рэальны стан рэчаў у краіне, а прапагандысцкая і ідэалагічная машына прабуксоўвае. Таму ўлада ўсё больш імкнецца да бескантрольнасці і становіцца помслівай.

Першая хваля рэпрэсій прайшлася па палітыках, другая хваля — па праваабарончых арганізацыях і асобе Алеся Бяляцкага, наступная хваля накрыла СМІ.

Узбуджэнне крымінальных справаў супроць сябраў БАЖ за ўдзел у выбарчай кампаніі, канфіскацыя тэхнікі і ператрусы, папярэджанні пракуратуры за асвятленне тэракта, справа Пачобута, на мяжы закрыцця «Народная Воля» і «Наша Ніва», беспрэцэдэнтны праслед журналістаў у часе «маўклівых акцыяў пратэсту» — 95 калег былі затрыманыя. Гэта жудасная статыстыка апошняга года, гэта тое, чым беларускія журналісты разлічваюцца за свабоду слова.

***— Назіральнікі кажуць пра яшчэ адну з'яву — беспрэцэдэнтную актывізацыю спецслужбаў Беларусі. Як журналісты спраўляюцца з гэтай падвышанай увагай?***

— Пра актывізацыю спецслужбаў мы гаворым на працягу апошніх двух гадоў. Тут варта прыгадаць крымінальную справу, узбуджаную па ініцыятыве генерала КДБ супроць чатырох журналістак розных выданняў. Ператрусы ў рэдакцыях і дома выклікалі проста абурэнне. У еўрапейскіх краінах спецслужбы не маюць права ўмешвацца і праводзіць такога кшталту дзеянні ні ў месцы пражывання, ні ў самой рэдакцыі. Для гэтага патрэбная санкцыя суда. Тое, што адбываецца ў нас, немагчыма ўявіць у цывілізаваным грамадстве.

Наш калега Анатоль Санаценка, рэдактар «Бабруйскага кур'ера», 5 красавіка сёлета быў выкліканы па тэлефоне да падатковага інспектара, а там яго сустрэлі супрацоўнікі КДБ, якія праводзілі размову цягам дзвюх з паловай гадзінаў і пагражалі ўзбудзіць крымінальную справу «за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь».

Мы фіксуем шквал папярэджанняў ад пракуратуры і КДБ журналістам, якія не маюць акрэдытацыі МЗС і супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ. Гэта азначае, што спецслужбы адсочваюць незалежных журналістаў і жадаюць трымаць усё пад кантролем.

***— Мадэлі ўзаемадачыненняў улады і СМІ ў аўтарытарных грамадствах мала чым адрозніваюцца. Аднак за 16 гадоў беларускія ўлады прайшлі вялікі шлях ад банальных «белых плямаў» да адбудовы «ідэалагічнай вертыкалі». Ці набылі оруэлаўскія сюжэты беларускі акцэнт?***

— Беларуская адметнасць палягае ў тым, што побач з праследам недзяржаўных СМІ афіцыйныя ўлады спрабуюць збудаваць ідэалагічную вертыкаль. Ганебнасць гэтай практыкі ў тым, што вертыкаль бярэ ня сябе неўласцівыя функцыі — яна становіцца бар'ерам на шляху журналіста да інфармацыі. Журналісты змушаныя ўзгадняць з ідэалагічнымі аддзеламі абсалютна нявінную інфармацыю. Абсурднасць гэтай мадэлі проста абурае.

У нашых маніторынгах мы зафіксавалі невытлумачальныя прыклады. Цэнтр турызму і краязнаўства ў Бабруйску адмаўляе «Бабруйскаму кур'еру» ў інфармацыі пра вынікі канферэнцыі. А забарона ідзе з гарвыканкама. У тым жа Бабруйску супрацоўніца краязнаўчага музея адмовілася пацвярджаць і ўдакладняць інфармацыю пра звычайную выставу са спасылкай на забарону гарвыканкама.

У Ганцавічах у раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі звярнуўся карэспандэнт «Ганцавіцкага часу», з тым каб атрымаць парады на тэму: што рабіць з агрэсіўнасцю восаў, якія нападаюць на людзей; як сябе варта паводзіць; якія меры перасцярогі трэба ўжыць звычайнаму чалавеку. У адказ рэдакцыя пачула, што такую інфармацыю незалежным СМІ гэтая ўстанова не дае…

***— Пры гэтым БАЖ аб'ядноўвае журналістаў розных мас-медыя. З улікам ацэнак, якія Вы далі беларускай сітуацыі, каму працаваць цяжэй: журналістам дзяржаўных ці недзяржаўных СМІ?***

— Гэта ў першую чаргу пытанне выбару кожнага чалавека.

Ёсць прыклады, калі журналісты дзяржаўных выданняў адмаўляюцца ад гарантаванага, стабільнага і сытага жыцця і абсалютна свядома сыходзяць.

Я не думаю, што ў кожнага шараговага супрацоўніка дзяржаўнай рэдакцыі сытае жыццё. Упэўненая, што шмат людзей з задавальненнем змянілі б месца працы, але ў нас няма рынку працоўных месцаў для журналістаў, мы не ў стане прапанаваць працаўладкаванне для нашых калегаў, якія гатовыя пакінуць дзяржаўныя СМІ.

З іншага боку, частка журналісцкай супольнасці задаволеная станам, у якім яна апынулася, спакойна выконвае функцыю «абслугі», якую ёй прапанавалі. Гэта статысты ўлады. І таму яны ніяк не рэагуюць на заявы, што выклікаюць шмат пытанняў. Да прыкладу, першы намеснік міністра інфармацыі заявіла, што «СМІ — гэта не чацвёртая ўлада, а партнёр улады».

У Беларусі адбылася падмена паняццяў — журналіста прымушаюць быць прапагандыстам і ідэолагам, гэта абсалютна непрымальна. І калі б у самім грамадстве ўспрымалася як каштоўнасць права на інфармацыю, такая падмена паняццяў трактавалася б выключна як ганебная з'ява. На вялікі жаль, гэтага пакуль няма.

Паміж уладай і дзяржаўнымі СМІ існуе своеасаблівая «здзелка» — улада фінансуе і патрабуе ідэалагічнага і інфармацыйнага абслугоўвання сваіх дзеянняў.

***— Парадокс беларускай сітуацыі ў тым, што, чым менш у краіне застаецца незалежных СМІ, тым больш сябраў становіцца ў БАЖ. Чым гэта тлумачыцца?***

— Я тлумачу гэта жаданнем чалавека быць прыналежным да журналісцкай супольнасці, быць разам з тымі людзьмі, погляды якіх ён падзяляе. Нават калі сярод нас ёсць разыходжанні ў падыходах і поглядах. Разуменне таго, што трэба быць разам, падштурхоўвае да таго, што чалавек робіць грамадзянскі і прафесійны ўчынак, становіцца сябрам арганізацыі.

Нас ужо больш за тысячу. І гэта паказчык ролі і значэння арганізацыі ў самой журналісцкай супольнасці.

Адна з нашых асноўных мэтаў, з якой мы да апошняга моманту спраўляліся, — вытрымліваць лідарства ў адстойванні стандартаў прафесіі. Я вельмі рада, што сёлета значна пашырылася колькасць удзельнікаў нашага прафесійнага конкурсу «Вольнае слова», а сам конкурс становіцца прэстыжным.

Мы прапануем юрыдычную падтрымку, кансультуем па складаных пытаннях, даём магчымасць удзельнічаць у адукацыйных праграмах. І гэта для людзей вельмі важна.

БАЖ дае сябрам магчымасць ствараць пляцоўкі па інтарэсах і дапамагае арганізаваць дзейнасць. У нас узнікла фотафілія, ад якой мы чакаем большай актыўнасці.

БАЖ не толькі займаецца прафесійнымі праблемамі. Гэта яшчэ і чалавечая супольнасць сяброў. Мы прыдумалі свой фэст «Бажынкі», дзе журналісты сустракаюцца ў нефармальных абставінах.

Мы шмат намаганняў прыкладаем для таго, каб нашы рэгіянальныя калегі не адчувалі сябе адарванымі ад Мінска. Кожны год праводзяцца конкурсы на лепшую філію, мы спрыяем правядзенню ў рэгіёнах майстар-класаў, прэс-клубаў і г. д.

***— Эканамічны крызіс паказаў, што не толькі палітычныя чыннікі, але і грошы становяцца для рэдакцыяў недзяржаўных выданняў адным з галоўных ворагаў. Вы ўлічваеце гэта, плануючы працу БАЖ?***

— Крызіс паказаў, што незалежныя СМІ ў сярэдзіне года апынуліся на мяжы банкруцтва, яны сталі самымі безабароннымі.

Неверагоднымі намаганнямі ішоў пошук шляхоў для змяншэння выдаткаў, і выданні выстаялі.

Паралельна мы назіралі рэзкае змяншэнне працэнта спісання незалежных газет. Для мяне гэта таксама ілюстрацыя высокага ўзроўню менеджменту незалежных выданняў.

Ніводная недзяржаўная газета не закрылася за апошні год праз эканамічныя ўмовы.

***— Рэпрэсіі, самацэнзура, эканамічныя цяжкасці вызначаюць для арганізацыі парадак дня. Ці не замінае гэтая «стратэгія выжывання» бачыць будучыню, ці здольная БАЖ адказваць на новыя выклікі?***

— Разлічваць на радыкальныя змены ў медыясферы не даводзіцца, бо гэтыя змены будуць залежаць ад дэмакратычных пераўтварэнняў у самой краіне, трансфармацыі палітычнай сітуацыі.

Прыярытэтам дзейнасці БАЖ з'яўляецца дапамога ў выжыванні незалежных СМІ ў краіне. За 16 гадоў мы згубілі вельмі шмат сродкаў масавай інфармацыі, якія не вытрымлівалі ціску і альбо ў судовым парадку закрываліся, альбо самаліквідоўваліся.

Сёння мы павінны захаваць кожную рэдакцыю, дапамагчы пераадолець усе цяжкасці і выклікі. Ёсць выданне — значыць, ёсць рэдакцыйны калектыў, ёсць журналістыка.

Інстытуцыянальная падтрымка рэдакцый застаецца для нас галоўнай тэмай.

Канвергентнасць рэдакцыяў з'яўляецца яшчэ адным з прыярытэтаў дзейнасці БАЖ. Досвед складанага мінулага года падштурхнуў нас да гэтага. Мы зразумелі, наколькі няўстойлівым можа быць друкаванае выданне. І калі рэальнымі становяцца выклікі, звязаныя з прыпыненнем выхаду выданняў, то мы павінны ствараць новыя пляцоўкі для размяшчэння інфармацыі. Адсюль з'яўленне і развіццё інтэрнэт-версіяў выданняў. Гэта тое, чым павінна займацца БАЖ, падтрымліваючы прафесійны ўзровень рэдакцыяў. У гэтым я бачу адзін са шляхоў да ўстойлівасці рэдакцыйных калектываў.

Мы бачым, што працэсы прыватызацыі ўжо распачаліся. І колькі б ні паўтаралі чыноўнікі, што дзяржаўныя СМІ не будуць выстаўленыя на продаж, што ідэалогію нельга прыватызаваць, прыход замежнага капіталу і інвестара як у эканоміку, так і ў медыясферу непазбежны.

Мы павінны быць да гэтага падрыхтаваныя. Мусім умець складаць бізнес-планы, адбудоўваць рэдакцыйную палітыку, быць гатовымі да новых выклікаў і ўмець адстойваць правы журналістаў перад працадаўцамі і новымі гаспадарамі СМІ.

Мы асаблівую ўвагу надаём параўнальна новаму кірунку — медыякрытыцы. Гаворка ідзе пра нашае ўменне бачыць сябе, уменне гаварыць пра сябе, аналізаваць сябе. З пачуццём уласнай годнасці ўсведамляць тое, куды мы рухаемся ў прафесійным сэнсе.

Яшчэ адзін кірунак нашай дзейнасці — медыяадукацыя. Пасля масіраванай прапагандысцкай апрацоўкі свядомасці мы павінны пачаць вучыць людзей разумець вартасць і карыснасць інфармацыі. І БАЖ павінна ўзяць на сябе гэтую функцыю медыяадукацыі. Мы фіксуем вельмі нізкі ўзровень запатрабаванняў з боку грамадства, адсутнасць крытычнага стаўлення да таго, што

прапануюць мас-медыя, размытасць усведамлення ролі і месца СМІ ў грамадстве.

Мы не павінны абыходзіць увагай інтэрнэт і сацыяльныя сеткі, якія таксама ўжо сталі ўніверсальным інструментам для распаўсюду незалежнай інфармацыі. Мы мусім ісці ў сацыяльныя сеткі, прысутнічаць там са сваімі прафесійнымі стандартамі.

Вельмі важны кірунак дзейнасці — нашы фрылансеры, якія патрабуюць дапамогі і ўвагі да




сябе. У інтэрнэце распачаўся збор подпісаў пад петыцыяй у абарону журналістаў-фрылансераў. Прапановы аб змене закона аб СМІ будуць накіраваныя ў Палату прадстаўнікоў і Міністэрства інфармацыі Беларусі. Сёння закон утрымлівае вельмі вузкую трактоўку паняцця «журналіст». Мы выступаем за пашырэнне гэтага азначэння з тым, каб даць фрылансерам законнае права збору і распаўсюду інфармацыі. Гаворка ідзе пра права існавання фрылансерства ў нашай краіне, і БАЖ будзе за гэта змагацца.

***— Гэтыя амбітныя планы могуць ацаніць не толькі сябры арганізацыі. Назавіце прычыну, па якой улады дагэтуль не зачынілі БАЖ.***

— Я ўпэўненая, што ва ўладзе ёсць цвярозыя і адэкватныя людзі, якія разумеюць, што БАЖ з'яўляецца не палітычным, а прафесійным згуртаваннем людзей, кваліфікацыя якіх прызнаная ва ўсім свеце. Гэта залаты запас беларускай журналістыкі. Сябры БАЖ перамагаюць у прафесійных міжнародных журналісцкіх конкурсах, а сама арганізацыя ўганараваная вышэйшай прэміяй Еўрапарламента імя Сахарава. Я лічу, што гэта не толькі перамогі БАЖ, гэта перамогі ўсёй нашай краіны.

Нагадаю, што ў 2009 годзе Беларусь наведала міжнародная місія журналісцкіх арганізацый, якія займаюцца свабодай слова. Паводле вынікаў працы місія падрыхтавала рэкамендацыі і парады беларускаму ўраду. Гэта грунтоўны дакумент, «дарожная мапа», дзе пералічаныя крокі, якія трэба зрабіць для рэфармавання медыясферы і рэалізацыі права на свабоду слова.

БАЖ адчувае падтрымку і салідарнасць міжнародных журналісцкіх арганізацый, я магу сказаць, што мы пачуваемся часткай міжнароднай журналісцкай супольнасці.

***— Праца БАЖ ужо ацэненая. Жанна Літвіна ўключана ў чорны спіс невыязных, а ў дзяржаўнай прэсе распачата шырокамаштабная кампанія па дыскрэдытацыі. Складаецца ўражанне, што Літвіну выштурхоўваюць?***

— Ёсць відавочная мэта дыскрэдытаваць, прынізіць, зламаць мяне — усё гэта я адчуваю.

Калі б я была палітыкам і марыла ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, ісці ў парламент, то пра лепшы PR і раскрутку і марыць бы не магла... Толькі мне гэта не трэба.

Сама ўлада дала мне ацэнку і ўзняла на рэйтынгавую вяршыню значнасці і ўплывовасці, выкарыстаўшы такую абмежавальную меру — забарону на выезд.

За 16 гадоў працы ў арганізацыі я бачыла рознае і да цяперашняй сітуацыі стаўлюся па-філасофску. І гэта пройдзе...

Я люблю БАЖ, і мая галоўная мэта — захаваць асацыяцыю і не даць зрабіць з ёй тое, што здзейснена з іншымі беларускімі арганізацыямі. БАЖ стала часткай майго жыцця. Мой клопат з ранку і да вечара — бажаўцы. Гэта вельмі дарагая для мяне частка жыцця, якая дапамагае перажыць усе цяжкасці.

# «Start» над Бугом



*Жанна СИДОРУК*

**Проекты интернет-радио из Бреста уже дважды признавались лучшими в столичном PR-конкурсе. Между тем его зачинатели и репортеры — недавние выпускники «Школы молодого журналиста», патронируемой БАЖ.**

В этих эфирах водятся «Мурены»-меломанки, можно отведать «Бугбургер» или встретиться с тяжелым «РадиоЛомом». Дюжина молодых брестчан создает единственное в 300-тысячном городе интернет-радио. И студия Radio START — не просто профессиональная мастерская. Для Бреста и (чтоб не сглазить!) для белорусской журналистики это действительно старт. При всех оговорках на непростые наши времена…

## В тесноте, зато в эфире

Мы разуваемся в тесном коридорчике обычной «хрущевки» в центре Бреста. «Конечно, однокомнатная квартира — это не полноценная студия. Бывает сложно работать: ты ведешь передачу, а за окном то дерутся, то кричат, то тормоза визжат. И ты одним ухом в наушнике, а вторым — на улице. Плюс постоянно приходится доказывать бабулям-соседкам, что это не из-за нас вырубилось электричество в подъезде или сломался домофон», — рассказывает о взаимоотношениях Radio START и окружающего мира «родитель» проекта Дмитрий Романов.

Свое «убежище» стартовцы называют временным. «Хочется перебраться в нормальное помещение и обзавестись более профессиональной техникой, чтобы была возможность приглашать в гости музыкантов, целые группы для live-эфиров. Нам бы судно — мы бы по Мухавцу бороздили, как пиратская радиостанция из "Рок-волны", — шутит Дмитрий. — А если серьезно, я после университета устроился на "обычную" работу на предприятии, чтобы зарабатывать и вкладывать в радио. Недавно приобрел в Польше специальный пульт. Я не журналист, а инженер по образованию. Но "дипломная" профессия — явно не мое. Меня влекут радио, свои проекты».



У «истоков», в далеком уже по ощущениям молодых 2007 году, радиоэфир полностью состоял из популярных музыкальных треков и транслировался исключительно для друзей. Уже ближе к 2010 году идея вышла на новый уровень — стали выходить авторские программы в записи, например, «Новая жизнь старых хитов» от DJ R3m (Александр Каско). Родилось и амбициозное название — «Radio START».

«Это название — три в одном: английское слово “star” — “звезда”, “art” — “искусство” и само слово “start” — “начало”», — расшифровывает Дмитрий Романов.



## От «Поджарки» до «ПроЧтения»

Постоянное вещание в прямом эфире началось осенью 2011-го. «Первой интерактивной программой была “Поджарка” с ее четырьмя рубриками: “Бугбургером”, т. е. новостями Бреста, “Беларахтунгом” — новостями страны, “Трубкой мира” — новостями из-за рубежа, и “Расчлененкой”, в которой мы обсуждали криминальные новости. Обычно мы работаем втроем, но иногда приглашаем гостей — опытных брестских журналистов — и просим их прокомментировать подобранные нами новости», — поясняет мой собеседник.

Основную ставку радийщики делают на молодежную аудиторию, хотя слушают их разные люди, «иногда совершенно неожиданного возраста».

«Но шансона у нас нет, чтобы таксистам угодить. Даже если заказывают — не ставим. Лучше хорошую белорусскую музыку из черных списков будем крутить, — с легкой иронией говорит Дмитрий. — А чем моложе аудитория, тем больше должно быть креатива и интерактива».




***Дмитрий Романов***

Для каждой программы придумывают звучное, интригующее название и сочную заставку: двухчасовое субботнее шоу «Murena Music» для ценителей Dubstep, Drum ’n’ Bass, Breaks, Jungle и прочих ломаных ритмов; фриковатое интерактивное шоу «Freak-A-Daily» через день по будням; «тяжелая» передача о настоящей музыке «РадиоЛом» с Кириллом Рычагом — поздним вечером в среду; дважды в месяц посиделки для книголюбов и меломанов «ПроЧтение» с радиодуэтом Марты Мартынюк и Сергея Егорова и многое другое. Все это рекламируется в социальных сетях, блогах, чатах, там же и обсуждается.

Каждый диджей может предложить свою концепцию программы — остальные помогут «докрутить» и реализовать. Идеи рождаются чуть ли не ежевечерне. «Вот можно сделать рубрику “Убей звезду”: пусть слушатели звонят и выбирают, кого отправить в топку. Ну или как-то поддругому обыграть, чтобы интерактивно было. Стопка же плакатов без дела лежит с Джастином Бибером и компанией. Пусть эта страшная попса нам послужит», — смеется диджей Дмитрий Босак.

## Политигнор

А вот политиков и чиновников, кажется, они не слишком чествуют. Здесь свои черные списки. «Хватит единственного ньюсмейкера в эфире! Он не заслуживает того, чтобы о нем столько говорили: во всех газетах, на всех лентах информагентств», — это предложение «новенькой» Насти. В этот эфирный день так и поступают.

«Нет, мы иногда все-таки даем новости и на эти темы, но, мне кажется, современную молодежь подташнивает от политики. Поэтому я концепцию нашего радио определил так — без политики и рекламы», — заявляет Романов.

## Попавшиеся в сети

Сотрудников Дмитрий Романов отбирает по следующему принципу: «Это должны быть люди, которым я могу доверять, которые заинтересованы в проекте, творчески мыслят — в общем, команда единомышленников». Поэтому здесь оказались студенты как недавно открывшейся в Бресте специальности «Журналистика (печатные СМИ)», так и будущие экономисты, работающие маркетологи и даже старшеклассники.

«В прошлом году Романов написал мне в социальных сетях, мол, читал мой Живой Журнал и предлагает попробовать себя в блоге их интернет-радио. Я согласилась. А потом он сказал на одной из планерок, что нужно, чтобы все себя попробовали в эфире, и кивнул на меня. Отлично помню: сижу, а у меня сердце "та-та-та-та, та-та-та-та" — в ритме поезда. Так я стала вести "Freak-a-Daily"», — вспоминает Виктория Гомолинская.

«Радио — это, наверное, мечта. Я когда-то пробовалась даже на наше Радио Брест, на ведущую новостей, но не срослось, — рассказывает Вика. — Почему не телевидение? Я боюсь своего изображения в телевизоре, оно меня полнит. А если серьезно, то радио дает полет воображению. Интересно, какой меня представляют слушатели с той стороны?»

Она считает, что у редакции Radio START хватит сил составить «достаточную конкуренцию нашему государственному радио». «Через год я выпускаюсь из университета. Уже сейчас не все предприятия хотят брать нас, экономистов, на практику. Но я надеюсь, что вот это мое хобби к тому времени перерастет в настоящую работу, источник доходов», — полагает Виктория.

## Сорву, сорву «PR-кветку»

Впрочем, успешность проекта заметна уже сейчас. Так, два года подряд ребята отлично показывают себя на открытом студенческом форуме «PR-кветка», который проводит столичный Институт журналистики БГУ.

Весной 2011 года, когда радио еще не вещало постоянно, они представляли проект информационного студенческого центра Брестского государственного технического университета, в который входила и газета «The Tags», с чем заняли первое место в образовательном блоке. «Это была очень удачная газета, мы в нее душу вкладывали, конечно, под чутким руководством Татьяны Юрьевны Шульги. Много дало также участие в Брестской школе молодых журналистов, организованной БАЖ, которую посещали четыре человека из редколлегии. Мы научились делать наши материалы острее и вкуснее. Одни заголовки чего стоили! Ну и популярности это газете добавило, конечно. Например, только "ВКонтакте" на нас было подписано 2,5 тысячи читателей, до сих пор студенты заходят и смотрят pdf-версии. Жаль, что руководство университета так легко отказалось от продолжения этого проекта, не удержало в своих стенах людей, которые делали "The Tags", и




*Ольга Малафеевча и Виктория Гомолинская*



*Виктория Гомолинская, Катерина Василюк, Дмитрий Босак на «PR-кветке-2012»*

Планы у них действительно амбициозные. «В 2019 году Бресту исполнится 1000 лет. И мы хотим, чтобы наш проект стал к тому времени сильным, раскрученным. Думаю, что к тому времени интернет-радио станет слушать проще, чем FM, — рассказывает Дмитрий. — Мы могли бы сделать что-то действительно оригинальное для своего города, что прославило бы его если не на весь мир, то на какой-то значительной территории или в широкой группе людей. Пока не знаю, что именно. Может, собственный, чисто брестский музыкальный open-air».

Стартовцы прекрасно понимают: чтобы воплотить задуманное, нужно стать настоящими профессионалами, многому научиться. «Мы совершенствуемся всюду, где только возможно. Нас интересуют и журналистика, и пиар, и новые технологии в СМИ, потому что кроме эфиров мы развиваем сайт, блоги, продвигаем себя при помощи акций. Некоторые из нас в прошлом году вступили в Белорусскую ассоциацию журналистов и благодаря ей участвуют в различных образовательных программах и тренингах. Большое внимание уделяем мультимедиа, потому что за ним будущее. Буквально недавно были на мастер-классе Андрея Ленкевича по этой теме. Когда я услышал, что в этом году тоже будут набирать в "Школу молодого журналиста", то посоветовал девчонкам — Вике Гомолинской, Марте Мартынюк и Ольге Малафеечевой туда попасть», — очерчивает фронт заданий Дмитрий Романов.

Что ж, хочется пожелать этим отважным покорителям интернет-эфира не растерять своего энтузиазма и дружной атмосферы в коллективе. Ну и нового просторного помещения — чуточку раньше, чем к тысячелетию Бреста.

*Фото Миланы Харитоновой*

все развалилось», — в голосе Дмитрия слышатся нотки обиды.

В этом году они отвезли на конкурс в Минск социальный проект «Брест велосипедный» и тоже вернулись с главной наградой — в социальном блоке. «Хотелось бы начать этот проект реализовывать, с помощью радио тоже. А пока нас ставят в пример студентам столичного журфака, что, конечно, очень приятно», — говорит один из авторов Дмитрий Босак.

Понятно, что пока ребятам на все не хватает «ресурсов и рук». «Но зато почти не мешают соответствующие органы, хотя, наверняка, интересуются нами, наблюдают, — говорит Романов. — Например, если в Минске запрещают те же бои подушками, то в Бресте подобное мероприятие прошло без особых проблем. Наверное, сыграло роль то, что организовывали бои в "неполитический" период — до летних молчаливых акций и после. Думаю, в администрации города посмотрели, что мы адекватно все провели в первый раз, не агитировали и не призывали, и разрешили второй раз реализовать идею. Так что это уже традиция — летом хотим повторить».




*Команда Radio START на «PR-кветке-2012»*

# Веб-журналистика: как не запутаться во Всемирной паутине



Photo.bymedia.net



*Людмила ЯНЕНКО*

**Работа в интернет-пространстве подкидывает журналистам вопросы, ответов на которые пока нет в учебниках.**

Интернет-медиа становятся все более популярными. Бесплатные, оперативные и мультимедийные, онлайн-СМИ отвоевывают аудиторию у традиционных: газет, радио и телевидения.

Число интернет-пользователей в Беларуси, по данным проекта Gemius Belarus, в конце 2011 года превысило 4 млн человек. Основная масса завсегдатаев интернета — люди в возрасте 25–34 лет и молодежь 19–24 лет. Впрочем, и белорусы постарше постепенно оценивают преимущества Всемирной паутины.

По мере развития байнета новостные сайты растут, как грибы. Казалось бы, вот оно — безграничное поле для журналистских экспериментов. Вместе с тем, осваивая интернет-пространство, журналисты задаются вопросами, ответов на которые пока нет в учебниках.

С какими трудностями сталкиваются первопроходцы белорусской онлайн-журналистики и как их преодолевают?

## Ведешь блог — уже веб-журналист?

Обучать веб-журналистике в Беларуси начали только в 2008 году, когда Институт журналистики БГУ открыл набор на соответствующую специальность. Студенты с новой в отечественной журналистике специализацией еще тренируют свое перо в основном в учебных изданиях. Пока же в онлайн-медиа идут сотрудники традиционных СМИ, блогеры и новички из других сфер, желающие попытать счастья на творческой ниве. И едва ли не каждый думает, что он может без специальной подготовки заниматься интернет-журналистикой, замечает редактор белорусского портала TUT.BY, автор и ведущая программы «TUT-Бава» Алёна Шеремет.

— В интернет-журналистику идут и жук, и жаба. С убеждением, что это новая сфера, которая не принимает каких-то законов традиционной журналистики. Мол, давайте делать так, как душа лежит, — отмечает Алёна, которая проработала в онлайн-медиа не один год.

По ее мнению, главная беда многих сотрудников новых медиа — непрофессионализм и нежелание учиться.

Общение на форумах и в блогах не ограничивает «интернавтов» какими-либо канонами и этическими нормами. «Рамки» редакции и профстандарты многими из них воспринимаются как посягательство на интернет-свободу.

— В конце прошлого года, когда молодые журналисты одного из интернет-СМИ сказали: «Коллективная планерка? Зачем я буду тратить свое время? Это тупость», — я была в шоке. Не думала, что такое возможно, — говорит Алёна Шеремет, отмечая, что веб-журналистам нужно учиться

балансировать между вкусами аудитории и профессиональными стандартами.

— Если уйти в чрезмерную академичность, то придется жертвовать аудиторией. А если думать только о потребностях аудитории, то как ощущать себя профессионалом? — задается вопросом Алёна.

Впрочем, качество интернет-СМИ страдает не только из-за неумения или нежелания работать. Небольшие штаты редакций заставляют интернет-журналистов становиться мастерами на все руки, замечает медиаэксперт Павлюк Быковский. Сейчас никого не удивишь тем, что журналист одной рукой набирает текст, второй — снимает видео или фотографирует. Приходится осваивать навыки менеджера, водителя, веб-мастера... А ведь онлайн-формат требует еще и работы «с колес»: сделал кадр, написал текст — тут же выкладывай в сеть. Иначе опередят конкуренты. При таком ритме работы качество неминуемо пострадает.

Как решать эту проблему? По мнению Павлюка Быковского, в первую очередь нужно постоянно повышать квалификацию сотрудников. Сделать это можно без особых затрат: в сети достаточно пособий для начинающих, а интернет-журналисты со стажем готовы поделиться опытом на мастер-классах и тренингах, как правило, бесплатно. Если веб-журналист хочет развиваться сам и совершенствовать свои проекты, он должен работать практически круглосуточно, добавляет Алёна Шеремет. Успех в этой сфере в немалой степени зависит от работоспособности и даже «одержимости» своим делом.

Впрочем, искать средства для развития редакции также необходимо. Как ни крути, а качественный и популярный сайт на голом энтузиазме не создать.



## Как перестать вариться в собственном соку?

Важное преимущество интернет-СМИ — возможность удаленной работы, как говорится, не выходя из дома. Именно такой вариант выбирают многие белорусские журналисты. Но в условиях «домашнего офиса», размышляет Павлюк Быковский, теряется возможность почувствовать плечо друга в редакции, обмениваться опытом и советами, ограничивается «взаимоопыление» идеями.

С экспертом соглашается Алёна Шеремет, которая последний год работает дома.

— Конечно, теряется контекст. Ведь бывают ситуации, когда можно передать обстановку просто взглядом. Да, когда мне нужны советы коллег, я пишу электронные письма, звоню по телефону. Но это совсем не то, как если бы я сидела с ними в общем пространстве, — говорит журналистка. — Спонтанный мозговой штурм в редакции часто более эффективен, чем те советы, которые приходят по почте или skype.

Вариться в собственном соку для журналиста недопустимо. Если вы работаете дома, не стоит пропускать редакционные планерки, семинары и даже корпоративы. Ведь коллеги по перу могут не только поделиться практическим опытом и свежими идеями, но и в случае чего проявить журналистскую солидарность, помочь, поддержать.

## Чего не хватает в Кодексе журналистской этики?

Первые кодексы этики журналиста появились в Европе еще в начале XX века, когда об интернете и слыхом не слыхивали. Направления журналистики продолжают меняться вместе с носителями информации, а основополагающие принципы этики остаются практически неизменными. Между тем новые медиа открывают и новые «соблазны» для журналистов.

Самая больная проблема интернет-СМИ сегодня — нарушение авторских прав. Информации в сети столько, что проконтролировать, кто, что и у кого «позаимствовал», очень трудно. Согласитесь, интернет-ресурсов, паразитирующих на информации, которую добывают другие, полно.

— Журналисты не утруждают себя поиском информации, заимствуют ее у других, часто заимствуют некорректно, искажают, — отмечает председатель Комиссии по этике БАЖ Анатолий Гуляев.

И хотя пагубная тенденция только усиливается, обращений по вопросу авторских прав в комиссию немного. Причина в том, считает эксперт, что о проблемах качественной журналистики в Беларуси начали говорить только в последние лет 15, а

до недавнего времени каждый мог поступать, как считал нужным.

— А ведь от вседозволенности до профессиональной этики — как от Шклова до Вашингтона пешком, — шутит Анатолий Гуляев.

Кроме этого, отмечает председатель Комиссии по этике, все чаще в сети используется ненормативная лексика. Появляется соблазн использовать ее и в журналистских текстах — мол, в интернете можно все.




Не исключено, что Кодекс этики БАЖ в ближайшее время будет дополнен пунктом о недопустимости использования ненормативной лексики в журналистских материалах. С таким предложением Комиссия по этике намерена обратиться к делегатам ближайшего съезда организации.

К слову, старая советская истина: «Совесть — лучший контролер» — не теряет актуальности и сегодня. Можно запрещать, судиться, но, скажем, воровство материалов у коллег по цеху не прекратится, пока каждый журналист не решит сам для себя: это — стыдно. Так же стыдно, как украсть жвачку в супермаркете или выбросить окурок на детской площадке. Саморегулирование журналистского сообщества, пожалуй, может оказаться посильнее даже самых мощных репрессивных механизмов. Совесть-то не обманешь...

## Закон — что дышло?

О стремлении регулировать деятельность интернет-СМИ белорусские власти заявили несколько лет назад. Для этого появились новая редакция Закона «О средствах массовой информации», знаменитый президентский указ № 60 и еще несколько документов.

Пока, правда, не удается не только управлять интернет-СМИ, но хотя бы определить, что это такое. В Законе «О СМИ» употребляется термин «средство массовой информации, которое распространяется через глобальную компьютерную сеть интернет». Однако определения этого понятия в законе нет, отмечает зампредседателя БАЖ Андрей Бастунец в пособии «Правовые аспекты онлайн-журналистики в Беларуси».

Каким должен быть порядок регистрации и работы онлайн-медиа, пока, похоже, не разобрались даже чиновники.

Известный белорусский журналист и юрист Юрий Топорашев в возможности регулировать веб-журналистику особыми методами сомневается. По его мнению, Закона «О СМИ», а также уголовного и гражданского законодательства достаточно, чтобы регулировать все правовые вопросы в журналистике — как в традиционной, так и в интернете.

— А что такое сегодня отрегулировать веб-журналистику? Это или закрыть полностью, или ничего не закрывать, — считает эксперт. — Можно просто перекрыть канал техническими средствами, как когда-то перекрывали ВВС и «Голос Америки» посредством глушилок.

В Беларуси в черный список сайтов попали несколько оппозиционных ресурсов, но доступ к ним провайдеры блокируют только в госучреждениях.

Вопросы регулирования и саморегулирования в интернете активно обсуждаются и в Европе. Но если там речь идет о фильтрации незаконной информации, то в Беларуси это очередная попытка «накинуть платок» на рот независимой прессы. И, похоже, попытки будут продолжаться...

Те, кто знает толк в чтении свежих газет за чашкой кофе, уверяют: интернет-журналистика все же не заменит традиционные СМИ. Но вот конкуренция между «старой» и «новой» журналистикой определенно будет журналистам и читателям только на руку. Первым, чтобы удержать аудиторию, придется идти в ногу со временем и постоянно совершенствовать мастерство. А вторые получат качественный медиапродукт — будь то газетная колонка, телепередача или новостная лента.





*Яніна МЕЛЬНІКАВА*

# Знайсці чалавека пад панцырам чыноўніка,

## альбо Як быць аб’ектыўным журналістам і здабыць інфармацыю

**Падаецца, што цяжэй за ўсё даводзіцца журналістам, якія «палююць на інфармацыю» ў рэгіёнах. Штодня рэгіянальныя журналісты грукаюцца ў дзверы чынавенства і штодня атрымліваюць адмовы ў інфармацыі. Як у такіх умовах застацца прафесіяналам? І як не забыцца на журналісцкія стандарты?**

Аб’ектыўнасць, ці, як зараз прынята казаць, бесстароннасць, — адзін з тых кітоў, на якіх стаіць прафесійная журналістыка. З першага дня навучання на факультэце журналістыкі будучых акулаў пяра і мікрафона вучаць, што для пацвярджэння інфармацыі трэба праверыць яе не меней чым па дзвюх не звязаных паміж сабой крыніцах. І падаваць не меней за два пункты гледжання на адну і тую ж праблему.

Але часам знайсці гэтыя крыніцы бывае не проста цяжка, а нават немагчыма. І пытанне не ў ляноце ці непрафесійнасці калегаў-журналістаў, але ў закрытасці беларускага грамадства, нежаданні нават тых, хто адказвае за кантакты з прэсаю ў розных дзяржаўных ці грамадскіх установах, на гэты кантакт ісці.



**Таццяна Гусева:**
*У краіне, дзе чыноўнікі, суддзі, дэпутаты адказваюць толькі перад адным чалавекам, праблема доступу да інфармацыі стала сістэмаю*

«У краіне, дзе чыноўнікі, суддзі, дэпутаты адказваюць толькі перад адным чалавекам, праблема доступу да інфармацыі стала сістэмаю, — кажа журналістка газеты “Салідарнасць” случчанка Таццяна Гусева. — Папрацаваўшы ў рэгіянальнай газеце, я бачыла прыклады, калі чыноўнікі пасля падвышэння службовага рангу змянялі стаўленне да журналістаў. І калі да падвышэння яны хоць інфармацыю “не для публікацыі” давалі, то, “выбіўшыся ў людзі”, закрывалі вусны на замок».

Але ж падачы афіцыйнага стаўлення да той ці іншай мясцовай праблемы вымагаюць амаль усе інфармацыйныя матэрыялы. Што ж робяць журналісты ў такіх выпадках?

«У праблемных матэрыялах стараюся паказваць абодва бакі, нават калі чыноўнікі ці іншы альтэрнатыўны бок не хочуць кантактаваць, — раскрывае "сакрэт" сваёй паўсядзённай журналісцкай працы журналістка "Брестского курьера" Іна Хоміч. — Праўда, у такім выпадку зварот да іх носіць чыста фармальны характар, раблю гэта хутчэй "для галачкі", толькі для таго, каб чытач зразумеў, што слова давалася ўсім, але не ўсе ім аднолькава скарысталіся».



**Аляксандр Муждабаеў:**
*Бываюць шчырыя людзі, якія проста кажуць, што не супраць узаемадзеяння, але ж «аддзел ідэалогіі не рэкамендуе»*

Наваполацкі журналіст Аляксандр Муждабаеў кажа, што ў ягонай практыцы «амаль не было выпадкаў», калі яму адмаўлялі ў інфармацыі, спасылаючыся на тое, што ён «не свой».

«Звычайна чыноўнікі проста цягнуць час, маўляў, прыйдзі ці патэлефануй праз тыдзень, месяц, паўгода... Але бываюць шчырыя людзі, якія проста кажуць, што не супраць узаемадзеяння, але ж "аддзел ідэалогіі не рэкамендуе"», — прызнаецца Аляксандр Муждабаеў.

Дамагчыся такой адкрыта-закрытай інфармацыі, як паказвае журналісцкая практыка абаіх рэпарцёраў, магчыма толькі на нейкіх «асабістых кантактах». То бок калі ўжо склаліся з кімсьці з чынавенства стасункі, то губляць іх для рэгіянальнага журналіста — раскоша. А калі не склаліся — то хоць «каравул!» крычы.

«Вось не палюбіла мяне адна чыноўніца наваполацкая і са скуры лезе, каб тую "нелюбоў" іншым напець. І што з гэтым рабіць можна? Я асабіста ведаю толькі два шляхі — "здабываць інфармацыю" па-ціхаму ці займацца тымі тэмамі, да якіх яшчэ яе "востры язык" не дацягнуўся», — разважае Аляксандр Муждабаеў. І тут жа аптымістычна дадае: «Але ёсць на свеце і такія людзі, якіх не тое што не палохаюць наказы зверху, а яны нават насуперак гэтым наказам жадаюць нешта распавесці».



**Хрысціна Марчук:**
*Варта думаць і шукаць, з кім яшчэ можна паразмаўляць на гэту тэму, калі першая крыніца па нейкіх прычынах адмовілася гаварыць з журналістам*

На думку гродзенскай фрыланс-журналісткі Хрысціны Марчук, яе калегі часам злоўжываюць немагчымасцю дамагчыся афіцыйнай інфармацыі.

«Такі стан рэчаў проста дазваляе калегам ленавацца», — кажа гродзенская журналістка.

Між тым з асабістага досведу і з досведу старэйшых калегаў Хрысціна ведае, што з пытаннямі варта ісці нават да тых, хто сто разоў табе адмовіў у інфармацыі.

«Калі ты пра штосьці спытаеш, то верагоднасць, што атрымаеш адказ на сваё пытанне, — 50 на 50, але калі ты не спытаеш, то 100 адсоткаў, што табе нічога не скажуць», — упэўненая Хрысціна Марчук.

З ёю згодная і Таццяна Гусева: «Для мяне яскравы прыклад прафесійнай упартасці — журналіст Associated Press Юрась Карманаў. Ён тэлефануе ў праваахоўныя органы, каб пацікавіцца іх пазіцыяй, і чуе: "Карманаў, вы ж ведаеце, мы вам нічога не скажам!" Але ён кожны раз тэлефануе і задае адны і тыя ж пытанні. Таму што гэта яго праца. І нашая таксама».

Калі ж да інфармацыі нельга дабрацца з аднаго боку, то гэта не азначае, што не існуе іншых шляхоў яе знайсці. Рэдка калі бывае, што інфармацыяй валодае толькі адзін чалавек. «Варта думаць і шукаць, з кім яшчэ можна паразмаўляць на гэту тэму, калі першая крыніца па нейкіх прычынах адмовілася гаварыць з журналістам, — раіць Хрысціна Марчук. — Часта так можна адшукаць асобу, якая не горш, а можа, і лепш за першую разбіраецца ў пытанні».

«Ты заўсёды шукаеш чалавека пад панцырам чыноўніка, падбіраеш для яго ключык і так, у рэшце рэшт, здабываеш тую каштоўную інфармацыю, дзеля якой прыйшоў у ягоны кабінет», — тлумачыць Таццяна Гусева.

# Асаблівасці нацыянальнага палявання на шкілеты ў шафе



*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, кіраўнік аналітычных праектаў інфармацыйнай кампаніі БелаПАН*

**Сакрэты абараняюцца ў кожнай дзяржаве. Але ў Беларусі, па-першае, сакрэцяць з перагінам, а па-другое, чыноўнікі на практыцы абмяжоўваюць журналістаў яшчэ болей: «ніз-зя» — і ўвесь вам адказ. Іншая рэч, што спасылкамі на рэжым, які не дае інфы, некаторыя калегі і цэлыя рэдакцыі прыкрываюць элементарную ляноту.**

## Каб буржуіны не скралі лякалы «Камінтэрна»

Цяперашні закон «Аб дзяржаўных сакрэтах», што набыў моц у лютым 2011 года, паводле ацэнкі юрыста, намесніка старшыні БАЖ Андрэя Бастунца, «болей размыты», чым папярэдні. Ключавая фармулёўка стала цьмянай, лічы таўталагічнай: дзяржаўныя сакрэты вызначаны як «звесткі, аднесеныя ва ўстаноўленым парадку да дзяржаўных сакрэтаў». Класічнае «масла масленае»!

Пры гэтым пералік звестак, якія не могуць быць прылічаныя да дзяржаўных сакрэтаў, рэзка скараціўся. Фактычна сакрэціць зараз можна ўсё, бо адпаведныя крытэры — гумавыя. Усё залежыць ад ахавальнага імпэту чыноўнікаў. Права ж сакрэціць звесткі нададзена болей чым паўсотні дзяржаўных органаў ды арганізацый, уключна з такімі, напрыклад, як Мінспорту ды «Беллегпрам». Крый божа праклятыя буржуіны скрадуць лякалы гарнітураў «Камінтэрна»!

«Гэтая піраміда перакуленая, — рэзюмуе Андрэй Бастунец. — Дзяржаўная таямніца разглядаецца як правіла, а не як выключэнне». Больш за тое, нагадвае эксперт, існуе праблема і з доступам да інфармацыі, што не ёсць сакрэтнай. У прыватнасці, з уступленнем у сілу новага закона аб СМІ рэдакцыі пазбавіліся права на абавязковы адказ з тых ці іншых інстанцый. Прынятыя некалькі гадоў таму папраўкі ў закон аб дзяржаўнай службе змушаюць службоўцаў браць дазвол на каментары для прэсы ў кіраўніцтва. Прэзідэнцкі ўказ 2009 года № 65 аб удасканаленні працы дзяржаўных органаў са СМІ, на думку майго суразмоўцы, таксама стаў дадатковым фільтрам супраць журналістаў, бо дэ-факта надзяліў кіраўнікоў розных устаноў прэрагатывай даваць ці не даваць любую інфармацыю.

Яшчэ адзін сумна вядомы фільтр — акрэдытацыя. Найпрасцейшы для кожнай казённай канторы спосаб сказаць «ад вінта!» непажаданай прэсе.

## За свіны грып — у лыч

Такім чынам, з самага верху чыноўніцтву дадзены шырокі абсяг для самавольства. Калі функцыянер хоча ўтаіць нейкія шкілеты ў сваёй ведамаснай шафе, перастрахоўваецца ці проста ўстаў не з тае нагі, ён можа адфутболіць «нячэснага» журналюгу, абсалютна не баючыся, што сам атрымае па шапцы. У крытычных жа выпадках спробы зафіксаваць падзею, факт блакуюцца зусім элементарна — пры дапамозе грубай фізічнай сілы. На вулічных акцыях «людзі ў цывільным» б'юць пад рэбры фотарэпарцёраў ды відэааператараў, псуюць ім апаратуру, змушаюць сцерці зняты матэрыял. «Вінцяць» і звычайных рэпарцёраў. Карацей, мала таго што законы драконаўскія, дык яшчэ і «практычнае выкарыстанне заканадаўства мае вельмі аддаленае дачыненне да літары закону», зазначае Бастунец.

Згадайма восень 2009 года, калі народ хадзіў у белых павязках, шалеючы ад чутак пра эпідэмію свінога грыпу. Чыноўнікі ж не прыдумалі нічога лепшага, як утойваць ды скажаць інфармацыю, каб, маўляў, не сеяць панікі. А тыя медыі, што дакапаліся да жахлівых фактаў (дыягназаў смерці ад A/H1N1), атрымалі ў лыч за нібыта дэзінфармацыю.

Мне падаецца надзвычай красамоўнай фраза Аляксандра Лукашэнкі на нарадзе па гарачых слядах леташняга выбуху ў мінскім метро, адрасаваная кіраўніку прэзідэнцкай адміністрацыі: «Людзям трэба даць поўную інфармацыю, не трэба нічога ўтойваць».

